Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# Паляунічы Беларусі

Орган Беларускага прамыслова-коопэрацыйнага саюзу паляу-нічых

1929
№ 6
Чэрвень

Год выданьня III



„Видит око, да зуб неймет“

# Рэчыцкія паляўнічыя ўперадзе.

## Яны першыя пачалі сацыялістычнае спаборніцтва ў сыстэме паляўнічае каапэрацыі.

### Іх прыклад павінен быць перанесен і ў другія раёны.

Калі часопісь была ўжо зьвёрстана, мы атрымалі невялічкую, але вельмі важную пастанову рэчыцкіх паляўнічых:

СЛУХАЛІ: аб удзеле каляктыву ў сацыялістычным спаборніцтве.

ПАСТАНАВІЛІ: прыняць усімі паляўнічымі каляктыву ўдзел у сацыялістычным спаборніцтве. Для спаборніцтва па барацьбе з драпежнікамі і арганізацыі сельскіх паляўнічых ячэек, выклікаць Гомельскі раённы каляктыў на тэрміны: арганізацыя сельскіх паляўнічых ячэек да 25-га чэрвеня гэтага году і па барацьбе з драпежнікамі—да 1 кастрычніка г. г. Па загатоўцы пушніны на 1929/30 год выклікаць Чачэрскі раён. На спаборніцтва па культурнай рабоце—на тэрмін па 1 студзеня 1930 г. выклікаць Хойніцкі раён.

Рэчыцкія паляўнічыя, аб якіх мы ўжо пісалі, як піянэрах па выданьні насьценгазэты ў сыстэме паляўнічае каапэрацыі, зьявіліся першымі і на гэтым важным вучастку працы. Зьдзіўляцца, чаму рэчыцкія паляўнічыя ідуць першымі, а не паляўнічыя другога раёну, няма чаго, бо рэчыцкі каляктыў налічвае ў сваіх радох добрую сотню рабочых. Вось чаму Рэчыца ўперадзе.

Сацыялістычнае спаборніцтва фабрык, заводаў, палёў—найлепшы сродак уздыму ініцыятывы, энтузіазму гарадоў і вёсак нашае краіны ў барацьбе за хутчэйшае і рашучае ўкараненьне сацыялістычных элемэнтаў у гаспадарчае і культурна-бытавое жыцьцё.

Мы друкуем сёньня толькі першае пачынаньне вялікае справы. Мы спадзяваемся, што вопыт рэчыцкіх паляўнічых будзе неадкладна перанесен ва ўсе ячэйкі і каляктывы.

**Рэдакцыя.**

---

# Пабудуем самалёт „ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“

### Індывідуальныя паступленьні за май м-ц.

Грышкевіч І. І., Грышкевіч Л. М., Салавей С. Л., Драгун К. А., Салавей І. Л., Салаў'ёў Е. А., Сарачынскі Н. І., Ізмайловіч І., Замбжыцкі А., Марцінкевіч В., Ярашэвіч В., Мацкевіч Н., Калесьнікаў В., Бабачонак Н., Марцінаў А., Краснадэмскі В., Лапа П., Закрэўскі І., Стаін І., Зінкевіч І., Вашкевіч П., Радзішэўскі П., Марцінкевіч І., Сазонаў І., Амбросік Е., Атаманаў С., Бурый М., Грышкевіч І., Судок Н., Бочышча К., Батракоў Е., Ціханаў Г., Юшкевіч П., Шэлепень І., Клюня Е., Багадзяж А., Ровін І., Чыжэўскі С., Хадасевіч В., Печань П., Макрыца Д., Астроўскі П., Філіпенак Л., Макрыцкі М., Катлярчук К., Крупевіч Ю., Рабец І., Сазонаў В., Сазонаў С., Ткач С., Валаховіч М., Буевіч Э., Нядбайла А., Шышпор С., Куноўскі В., Пракудзін А., Качан А., Бародзіч В., Макараў К., Хрушчаповіч В., Курган А., Астроўскі Н., Гапковіч Л., Крупеніч Б., Акулевіч А., Вінаградаў М., Воласач Д., Аўхімовіч Н., Гурын Д., Кунцэвіч К., Рублеўскі І., Швайбовіч Ф., Дубнеля К., Бандарэнка А., Апет П., Апет Р., Крывіцкі В., Кавалеўскі Ф., Кальмар Ф., Кавалеўскі І., Кавалеўскі Ф., Каструкоў А., Юшкеўскі Д., Шынкевіч І., Мігуцкі В., Аксенаў І., Босы П., Босы Т., Войніч Г., Філіпенак В., Ермаковіч А., Багдан В., Углік М., Люцко М., Рамановіч С., Аржаноў Д., Ярашэвіч П., Сяменек К., Куноўскі Я., Баярын Д., Шэўчэнка Н., Квяткоўскі П., Шышпор В., Квяткоўскі В., Пастушкоў М., Фядоцьцяў І., Кудзерка Р., Ленартовіч І., Марцінкевіч І., Шульчэнка О., Юхневіч В., Казяроў М., Бенькуньскі Э., Тур В., Верашчагін, Маеўскі, Тур М., Тур С., Ткачоў Г., Ткачоў Х., Атраменкаў Т., Жыракоў Х., Кліменка П., Мажэй М., Мапнораў А., Бут Я., Шылец М., Смальцэр М., Міклашэвіч Х., Цысік І., Чахоўскі Д., Шынкарэнка І., Рак Ц., Яўхіменка З., Яўхіменка С., Луфераў С., Шыпец С., Протчанка С., Філіпенка Ё., Каржанеўскі І., Цыбулька М., Росьлік Р., Ігнаценка Ц., Марціненка Л., Луфераў Х., Бутчыскі З., Сычоў А., Касмачэўскі І., Антоненка А., Антоненка К., Ламейкін І., Кліменка Х., Панкоў Д., Кузьменкаў М., Марозаў А., Сьліцкоў Я., Іёнаў Я., Шэмікаў С., Вергеенка Н., Осьвяцімскі А., Рознатоўскі Д., Шастакоў П., Расюк К.; Еўдачонка М., Росюк І., Чэшонак А., Каляда І., Каляда Н., Бухавец Х., Курыленка Ф., Шылоненка А., Шары Е., Сафронаў В., Глухоўскі Е., Міляўскі Д., Урлайніс З., Кудаман Л., Дзегцярэнка Т., Грыганенка І., Сызоў Д., Узкі Я., Сракоў В., Касьценкаў А., Касьценкаў А. С., Махавікоў Я., Прахарэнка Г., Спурын П., Кавалёў Г., Ігнаценка Н., Казлоў Т., Вамненка П., Бальшуноў Х., Фірсаў П., Макеенкаў Я., Міхалачкін С., Адахоўскі А., Чахлоў А., Віжанкоў В., Воўкаў Р., Узкі С., Навалаеў Г., Язерскі Г., Поклад І., Міханчэнка Р., Мікіценка Г., Каліненкаў С., Бабкоў В.

Усяго па гэты час сабрана на пабудову самалёта 12.400 руб.

---

*Часопісь выходзіць пад рэдакцыяй:* **М. Ф. Шмідта, У. С. Данькова і Г. Я. Хлеўнікава.**

*Адказны рэдактар:* **Міх. Шмідт.**

Няхай жыве саюз рабочых і сялян!

# Паляўнічы Беларусі

№ 6 чэрвень. Штомесячная часопісь. Орган Белкахотсаюзу. Год выданьня 3-ці. 1929

ЗЬМЕСТ



ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:

| | |
|---|---|
| На 1 год | 2 р. — к. |
| На 6 м-цаў | 1 р. 20 к. |
| На 3 м-цы | — 70 к. |

АБВЕСТКІ:

| | |
|---|---|
| Старонка перад тэкстам | 150 р. |
| На апошн. стар. вокл. | 100 р. |
| Ззаду тэксту | 70 р. |
| Аб прапажы сабак | 1 р. |
| Аб прадажы сабак | 3 р. |

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

*Менск, Савецкая, № 71. Тэлефон—405.*

# Міжнародны дзень каапэрацыі.

Сёмы раз у першую суботу ліпеня месяца штогод працоўныя масы сьвяткуюць міжнародны дзень каапэрацыі: правяраюць, што зрабіла каапэрацыя, каб пашырыць сваю дзейнасьць, каб выцісную прыватнага гандляра з рынку, правяраюць, што зроблена, каб ахапіць у свае шэрагі больш працоўных, палепшыць справу забесьпячэньня таварамі каапэраваную масу і г. д.

*У краіне Саветаў*, краіне дыктатуры пралетарыяту міжнародны дзень каапэрацыі зьяўляецца сапраўды днём масавае ўрачыстасьці, масавае дэманстрацыі посьпехаў нашае каапэрацыі, днём выяўленьня ўдзелу і адносін да яе рабочых і сялян нашага Саюзу.

*У краіне Саветаў* працоўныя выйдуць у гэты дзень, як пераможнікі, як вялізны і магутны атрад удзельнікаў сацыялістычнага будаўніцтва, арганізатараў новага жыцьця, новага быту.

Пад кіраўніцтвам партыі Леніна, партыі пераможнага пралетарыяту Савецкая каапэрацыя робіць сваю вялікую справу, арганізуючы спажыўца, арганізуючы вытворшчыка, і кожны крок Савецкай каапэрацыі, ёсьць крок наперад у справе пашырэньня сацыялістычнага будаўніцтва.

*У капіталістычных краінах,* дзе падняволена рабочая кляса і працоўнае сялянства, у краінах, дзе кіраўніцтва каапэрацыяй знаходзіцца ў цэпкіх лапах сацыял-здраднікаў—лёкаеў буржуазіі, мы бачым зусім адваротнае. У буржуазных краінах рабочая кляса, пакуль што, прымушана будзе сьвяткаваць гэты дзень пад пільным вокам найміта германскіх капіталістых, сацыял-жандарма Цэргібеля, пад дыктатарскай забаронай Мусоліні, пад пятой пілсудчыкаў-жандармаў.

*У буржуазных краінах* моцна сьціснулі кіраўніцтва каапэрацыяй у сваіх лапах згоднікі ўсіх гатункаў і колераў—прыслужнікі каралёў, капіталу, вартыя жалю фантазёры і брахуны. Яны—супроць рэвалюцыйных ідэй у каапэрацыі. Яны супроць дапамогі працоўным у іх змаганьні з капіталам. Яны за нэйтралітэт каапэрацыі. Яны за аб'яднаньне ўсяе каапэрацыі ўсяе „нации", пачынаючы з каралёў нафты, вугалю і жалеза, канчаючы беспрацоўным пралетарыям, аддаючы кіраўніцтва каапэрацыі першым.

Буржуазія і іх лёкаі—сацыял-здраднікі прабуюць рознымі спосабамі гаварыць працоўным пра магчымасьць „мирного" праз каапэрацыю пераходу ад капіталізму да сацыялізму.

Ці так гэта? Успомнім факты:

Разгром катам Цанкавым баўгарскай каапэрацыі, разгром Мусоліні італьянскай каапэрацыі, згодніцтва кіраўнікоў каапэрацыйнага Альянсу, якія адмовіліся дапамагчы ангельскім гарнякам у дні іх гэраічнай барацьбы, усё гэта мы памятуем, бо гэта адбылося ня так даўно. Ці можна, пасьля ўсяго гэтага, гаварыць пра мірны пераход ад капіталізму да сацыялізму праз каапэрацыю, якой кіруюць лёкаі буржуазіі? Так могуць гаварыць толькі капіталістыя і іх лёкаі.

*А ў нас!* Наша Савецкая каапэрацыя, каапэрацыя сапраўды рабочых і працоўных сялян будзе ў гэты дзень дэманстраваць сваю магутнасьць, свае посьпехі, будзе выяўляць свае слабыя месцы і намеціць далейшы шлях, каб яшчэ шпарчэй наступаць на капіталістычныя элемэнты, каб яшчэ большым тэмпам пайсьці па рэйках сацыялістычнага будаўніцтва.

Паляўнічая каапэрацыя гэта сьвята спаткае якраз пасьля раённых і акруговых справаздачна-перавыбарчых сходаў і напярэдадні Зьезду „Белкохотсоюза". Такім чынам мы да міжнароднага дню каапэрацыі праверылі работу нізавых зьвеньняў нашае каапэрацыі, і часткова на акруговых сходах праверылі дзейнасьць цэнтру паляўнічай каапэрацыі, а таму ў гэты дзень мы павінны пачаць праверку, што зроблена ў выкананьне дырэктыў, якія даваліся на справаздачна-перавыбарчых сходах.

Пытаньні паляўнічае гаспадаркі і гаспадарчых да яе адносін з боку самых паляўнічых, забесьпячэньне таварамі, пушныя загатоўкі, каапэраваньне беднаты, разгортваньне культработы і інш., аб якіх мы так шмат пісалі і гаварылі, павінны быць яшчэ і яшчэ раз падпарадкаваны крытыцы паляўнічых мас.

# Да VIII сходу ўпаўнаважаных „Белкохотсоюза“.

У першую палову ліпеня месяца склікаецца 8 Усебеларускі сход упаўнаважаных Беларускага прамыслова-каапэрацыйнага саюзу паляўнічых. Адлегласьць, якая аддзяляе нас ад 7 сходу ўпаўнаважаных, больш як два гады, а ад апошняга пленуму—год. Гэты прамежак часу гаворыць сам за сябе аб важнасьці 8 сходу ўпаўнаважаных.

### Пастанова Цэнтральнага Праўленьня.

Цэнтральнае Праўленьне „Белкохотсоюза“ пастанавіла:

VIII Сход упаўнаважаных склікаць 13 ліпеня 1929 году.

Норма прадстаўніцтва устанаўліваецца—1 дэлегат ад кожных 400 членаў саюзу па апошняй перарэгістрацыі.

Напярэдадні сходу ўпаўнаважаных—11 ліпеня склікаць пленум „Белкохотсоюза“.

Прыстасаваць да сходу ўпаўнаважаных усебеларускія стралковыя спаборніцтвы і выстаўку паляўнічых насьценных газэт.

І сапраўды, сабралася шмат важных пытаньняў, з якіх некаторыя ні разу яшчэ не абгаварваліся на папярэдніх сходах упаўнаважаных.

Пяцігадовы плян аднаўленьня паляўнічае гаспадаркі, культработа ў сыстэме паляўнічае каапэрацыі і рад іншых новых прынцыповых пытаньняў, будуць на 8-м сходзе ўпаўнаважаных разглядацца.

За гэтыя два з лішкам гады, якія аддзяляюць нас ад 7 сходу, паляўнічая каапэрацыя Беларусі значна пашырыла сваю дзейнасьць і ўзрасла якасна—ачысьціўшыся (праўда яшчэ неканчаткова) ад „бывших“, якім няма месца ў клясавай каапэрацыі, палепшыла забесьпячэньне таварамі, маюцца дасягненьні ў выкананьні пляну загатовак (у гэтым годзе ён ня выканан, дзякуючы лютай зіме), зазначыўся пэўны рух, у арганізацыйным узмацненьні сыстэмы і яшчэ рад дасягненьняў.

Але-ж, побач з гэтым, у нас шмат чаго яшчэ не дароблена, шмат памылак было ў рабоце. Задачы, якія стаяць зараз перад нашай каапэрацыяй, некалькі адрозьніваюцца ад папярэдніх. Паляўнічая каапэрацыя стаіць зараз на новым шляху ў сваёй дзейнасьці—на шляху плянавай калектыўна-арганізаванай працы па аднаўленьню паляўнічае гаспадаркі, якая зьяўляецца неадрыўнай часткай усяе сацыялістычнае гаспадаркі. А адсюль вынік, што ўсе формы нашае работы павінны быць зьменены і накіраваны ў першую чаргу на будоўлю гаспадаркі.

Пяцігадовы плян аднаўленьня паляўнічае гаспадаркі, які прайшоў ужо амаль усе інстанцыі плянавых органаў з папярэднім (праўда, ня зусім актыўным) абгаварэньнем на мясцох ставіцца зараз на канчатковае вырашэньне гаспадара паляўнічае каапэрацыі—8 сходу ўпаўнаважаных. Ужо гэта адно пытаньне гаворыць аб важнасьці 8 сходу.

Пяцігадовы плян будаўніцтва ўсяе нашае сацыялістычнае гаспадаркі—гэта генэральная лінія камуністычнае партыі. Таму ўсюды, дзе ў выкананьні гэтага пляну зьявіцца шчыліна, яна будзе адбівацца на ўсёй будоўлі. Вось чаму мы гэтаму пытаньню зьвярталі і павінны зьвярнуць зараз усю нашу ўвагу. Дзелавіта і сур'ёзна мы павінны ўсебакова калектыўна абгаварыць яго, каб пасьля сходу ўпаўнаважаных з усёй энэргіяй і адданасьцю ўзяцца за яго практычнае выкананьне, ідучы ў першых радох будаўнікоў сацыялізму.

Стыхійнае ўзьнікаНьне паляўнічае каапэрацыі ў мінулым адбілася на яе сацыяльным складзе. І калі мы зараз, пры апошняй перарэгістрацыі, правялі чыстку паляўнічых шэрагаў, дык гэтым мы яшчэ ня можам лічыць нашу працу па палепшаньню якаснага складу скончанай. Па-першае, ў нас ня ўсе яшчэ прайшлі перарэгістрацыю, праўда, мы гэтых лічым мэханічна выбыўшымі, але, калі яны будуць уступаць на новых пачатках увосень, мы павінны будзем гэты момант улічыць, каб не прапусьціць варожы нам элемэнт у саюз. Па-другое, сярод застаўшыхся яшчэ ў саюзе пасьля перарэгістрацыі ня мала „бывших“ людзей. Ня мала фактаў, калі ў ролі абаронцаў гэтакіх людзішак выступаюць кіраўнікі паляўнічае каапэрацыі з заявамі, што гэты паляўнічы нарадзіўся са стрэльбаю, няхай ужо з ёю і памрэ, шкоды вялікай ён ня зробіць. З такімі поглядамі мы павінны змагацца з усёю рашучасьцю, яны чужды нашай клясавай каапэрацыі; мы маем цьвёрдую ўстаноўку, што пазбаўлены выбарчых праву—чужды нам элемэнт, ня можа быць у нашае каапэрацыі і ад гэтае ўстаноўкі адступаць мы не павінны. Апошняя перавыбарчая кампанія нізавых зьвеньняў нашае каапэрацыі лішні раз пацьвердзіла правільнасьць гэтае ўстаноўкі. Ня мала фактаў, калі пры абіраньні некаторых бюро райкалектываў, кулакі арганізавана імкнуліся правесьці „сваіх“ у кіруючы склад каапэрацыі. А калі яшчэ ўлічыць, што гэты варожы нам элемэнт трымае ў сваіх руках стрэльбу, тады малюнак больш ясны.

### Парадак дня VIII Сходу ўпаўнаважаных.

1. Справаздача праўленьня „Белкохотсоюза“ і рэвізійнай камісіі.
2. 5-цігадовы плян аднаўленьня паляўнічае гаспадаркі.
3. Культурная праца ў сыстэме паляўнічае каапэрацыі.
4. Выкананьне пляну пушных загатовак.
5. Разгляд статуту „Белкохотсоюза“.
6. Выбары цэнтральнага праўленьня і рэвізійнай камісі.

Выканаць пасьпяхова гэтую задачу мы зможам яшчэ і тады, калі ад пастаноў, дырэктыў і плянаў па каапэраваньню беднаты мы пяройдзем да практычнае работы ў гэтым напрамку і калі маючыяся для гэтае мэты фонды будуць скарыстаны па прамому прызначэньню.

На правядзеньне выразнай клясавай лініі ў нашай штодзеннай працы мы павінны зьвярнуць усю нашую ўвагу. Трэба біць па руках і нагах тых, якія скрыўляюць клясавую лінію ў нашай працы.

Восьмаму сходу ўпаўнаважаных прыдзецца абгаварыць пытаньне фінансавага накапленьня і цэнтралізацыі забесьпячэньня таварамі акруг. Гэтыя два пытаньні непадзельны. Зразумела, што калі няма сродкаў у цэнтральным праўленьні, ня можа быць цэнтралізаванага забесьпячэньня таварамі, а існуючыя формы забесьпячэньня ў сучасны момант нас задаволіць ня могуць. Амаль усе старшыні акруговых праўленьняў разьяжджаюць самі ў Маскву за таварамі, маючы часта ня больш 1-2-3 тысяч рублёў. Гэта, бязумоўна, б'е па нашых грашох і па спажыўцу. Асабліва зараз, калі мы пачынаем аднаўляць паляўнічую гаспадарку, гэта значыць, што вялікая частка гандлёвай дзейнасьці павінна быць перанесена на гаспадарчую і што разьезды старшынь

акруговых праўленьняў за таварамі ў Маскву будуць адбівацца на выкананьні генэральнай лініі. Нам пытаньне цэнтралізацыі забесьпячэньня неабходна вырашыць.

Шмат увагі мы зьвярталі і зьвяртаем пушным загатоўкам, але канчатковае дагаворанасьці ў нас яшчэ і па гэты час няма. Між тым практыка загатовак гэтага году паказала, што адзінае думкі ў загатаўцеляў няма, а няма яе таму, што іх вельмі шмат. Улічваючы гэта, 8-му сходу ўпаўнаважаных трэба будзе канчаткова вырашыць гэта пытаньне. Мы лічым, што больш мэтазгодна будзе, калі на загатоўчым рынку застанецца Дзяржгандаль і Паляўнічая каапэрацыя.

Вось тая асноўная сума пытаньняў, якая падлягае абгаварэньню 8 сходу ўпаўнаважаных. Мы тут не закранулі цэлы шэраг прынцыповых пытаньняў. Аб іх ужо пісаліся ў пятым нумары, а па некаторых маюцца спэцыяльныя артыкулы ў гэтай часопісі.

Выкананьне ўсіх намечаных мерапрыемстваў патрабуе ня толькі мабілізацыі ўвагі ўсіх паляўнічых, але і іх непасрэдны актыўны ўдзел у практычнай працы. 8 сходу ўпаўнаважаных прыдзецца асабліва спыніцца на пытаньні сацыялістычнага спаборніцтва ў нашае сыстэме. Практыка пераклічак гігантаў—заводаў, фабрык і палёў паказала, што гэты мэтад адзін з лепшых і жыцьцёвых, які садзейнічае будоўлі нашае сацыялістычнае гаспадаркі і гэту работу мы павінны неадкладна перанесьці ў сыстэму паляўнічае каапэрацыі.

Пад знакам разгорнутай дзелавой самакрытыкі, лупцуючы па ўсіх нашых недахопах, вышукваючы нашыя практычныя мерапрыемствы, якія садзейнічалі-б палепшаньню працы, увязваючы іх з агульнымі палітычнымі задачамі рабочае клясы, прыцягваючы шырокія колы каапэрацыйнага насельніцтва, пойдзем па шляху ажыцьцяўленьня стаячых перад намі задач.

**Марозаў.**

## Пара настала.

Ужо ў савецкіх умовах саюз паляўнічых Беларусі налічвае дзесятак год свайго існаваньне і толькі 2—3 апошніх гады мы нешта робім; маем законную падставу сказаць, што мы юрыдычна ўжо аформіліся і маем значныя практычныя дасягненьні ў арганізацыйнай працы (праўда, яшчэ толькі першы год, чаму і ня зусім гладка): устаноўлена і праводзіцца дыфэрэнцыяцыя пая і іншых узносаў, паляпшаецца кіраўніцтва як з боку цэнтральнага праўленьня, так з боку акрпраўленьняў раённымі калякывамі, утвараюцца паляўнічыя ячэйкі пры сельсаветах, значна палепшана задавальненьне агнябоеприладамі па генэральных дагаворах, маюцца і некаторыя дасягненьні ў культпрацы і інш.

Мэта гэтай заметкі—не гістарычны агляд жыцьця паляўнічага саюзу і падрабязнае дасьледваньне яго дасягненьняў і недахопаў (гэтаму будзе падведзен ітог па сканчэньні справаздачна-перавыбарчай кампаніі на пэрыфэрыі), а пастаноўкі пытаньня ў сэнсе далейшай структуры яднаючага нас цэнтра—„Белкохотсоюза“. Статуты акруговых цэнтраў пераглядаюцца і з некаторымі зьменамі будуць прымацца на акруговых сходах упаўнаважаных. Што-ж датычыць статуту цэнтральнага праўленьня, дык, па-мойму, яго неабходна праўленьню выпрацаваць і на будучых акруговых сходах разглядзець таксама, паставіўшы галоўнай мэтай падагульненьне гаспадарчых функцый цэнтральнага праўленьня.

Неабходна самым сур'ёзным чынам паставіць перад сабой задачу арганізацыі цэнтральнага праўленьня па тыпу „Всекохотсоюза“. Для гэтага, па-мойму, маецца ўсё неабходнае і складаецца яно з наступнага: 1. Цэнтральным праўленьнем ужо заключаны генэральныя дагаворы з заводамі на задавальненьне Беларусі агнябоеприпасамі. 2. Заключаны таксама дагаворы на задавальненьне акруг мехавым таварам. 3. Зьяўляючыся адным з асноўных загатаўцеляў пушніны, саюз паляўнічых з году-ў-год заваёўвае давер'е ўрадавых органаў і будзем спадзявацца, што ў будучым годзе Наркамгандлю пакіне на пушным рынку толькі двух загатаўцеляў—Дзяржгандаль і Саюз паляўнічых і заданьне нам будзе даведзена да 70%. 4. Можна арганізаваць майстэрні па выпрацоўцы скураных вырабаў (патранташы, паляўнічыя торбы, паясы і інш.); можна і трэба мець сваю скарняжную майстэрню, можна цэнтралізавана заключыць умову з арцелямі аб дастаўцы рыбалоўных прылад і вырабаў, нават можна цэнтралізаваць і задавальняць акругі, якія яшчэ прымушаны ўчыняць гандаль музыкальнымі і вэлёсыпэднымі часткамі і іншымі прадметамі. Уся гэта цэнтралізаваная загатоўка, бязумоўна, дасьць станоўчыя вынікі. Неабходна толькі пытаньне гэта добра абгаварыць, каб ня было такое цэнтралізаванае задавальненьне, як зараз: бяз базы, без захоў, без рахункаў на тавары, прысылаемыя ў акругі, і ўсякай іншай неразьбярыхі, якую мы пераживаем у гэты час.

Для правядзеньня ўсяго гэтага ў жыцьцё, *як асноўнае,* неабходна ўтварыць пры цэнтральным праўленьні паявы фонд, г. зн. усе акругі павінны ўнесьці цэнтральнаму праўленьню пай, ня менш за 3 рублі з кожнага члена саюзу данай акругі, што і будзе зьяўляцца асноўнай фінансава-гаспадарчай базай цэнтральнага праўленьня. Акругі ад гэтага толькі выйграюць. Ня трэба будзе разьяжджаць у Маскву, Ленінград і ў іншыя гарады кожнай акрузе асобна, ды і цэнтральнае праўленьне ня будзе знаходзіцца на ўтрыманьні акруг і шукаць мэтады абкладаньня паляўнічага то блянкамі білета, то 50%-ным адлічэньнем уступных і зборы з паляўнічага ад гэтага паменшацца. Па-мойму—пара настала і неабходна гэта пытаньне абгаварыць па ўсіх акругах на зьездах і ўзяцца за працу.

Ад рэдакцыі. Прынцыпова згаджаючыся з высунутымі довадамі т. Марозава аб цэнтралізацыі забесьпячэньня таварамі акругі, мы лічым, што гэта пытаньне неабходна будзе абгаварыць ні на будучых праз 2 гады акруговых сходах упаўнаважаных, а зараз, на надыходзячым усебеларускім зьезьдзе ўпаўнаважаных.

## Прывітаньне гаспадару паляваньня—VIII-му сходу ўпаўнаважаных.




Міх. Шмідт.

## Дагаворымся аб тэрмінах паляваньня.

Гэтым пытаньнем цікавіцца ўся паляўнічая маса. Яму зьвяртала шмат увагі часопісь, аб ім працягваюць пісаць і гаварыць на ўсіх сходах, нарадах, пасяджэньнях і зьездах, а яснасьці ўсё няма і няма. Ёсьць ня мала паляўнічых, якія захоўваюць існуючыя тэрміны паляваньня, а аб мэтазгоднасьці гэтых тэрмінаў часта ня ведаюць. Ёсьць і такая група, якая не згаджаецца з існуючымі тэрмінамі і просіць іх зьмяніць.

Наогул, наконт тэрмінаў паляваньня ёсьць шмат думак.

Таму паўстае пытаньне аб неабходнасьці канчатковага абгаварэньня пытаньня „аб тэрмінах паляваньня“ яшчэ раз на надыходзячым сходзе ўпаўнаважаных „Белкохотсоюза“ і аб яго рашэньнях давесьці да ведама паляўнічых мас.

Перада мною ляжаць некалькі лістоў віцебскіх таварышоў па гэтаму пытаньню. Ва ўсіх іх (за выключэньнем аднаго), гаворыцца аб пераглядзе існуючых тэрмінаў, з перанясеньнем пачатку паляваньня на цецярукоў і качак з 1 жніўня на 15 і на зьвяроў (зайца і ліса) з 15 кастрычніка на 1 лістапада.

На першы погляд мы тут, бязумоўна, маем гаспадарчы падыхоў да справы; людзі даводзяць нэмэтазгоднасьць існуючых тэрмінаў паляваньня і настойваюць на іх перанясеньні. Але-ж гэтыя таварышы зусім забываюць, што тэрмін паляваньня адкладаць надалей няма патрэбы, бо вадаплаваючая дзіч, а таксама і балотная да 1 жніўня ўжо даволі падрасла і лапуноў амаль не сустракаецца, а калі дзе і ёсьць запаздалы вывадак, дык ён можа быць нават і ў верасьні.

Апрача таго, даючы свае прапановы аб перанясеньні паляваньня на лясную і вадаплаваючую дзічыну на 1 жніўня, гэтыя таварышы забываюць, што такі час зьяўляецца спозьненым, бо 15—20 жніўня цецярукі пачынаюць кепска дапушчаць сабаку, а качкі „уходят на озера и держатся середины“, зьяўляючыся няпрыступнымі „для обстрела“.

Нельга згадзіцца і з думкай гэтых таварышоў аб перанясеньні тэрміну паляваньня на зьвяроў (зайца і ліса) з 15 кастрычніка на 1 лістапада з тае прычыны, што для яго застанецца зусім мала часу і пры такім паляваньні нават ня ўдасца наганяць маладога ганчака.

Існуючыя зараз тэрміны паляваньня (на лясную і вадаплаваючую дзічыну з 1 жніўня, а на зьвера з 15 кастрычніка), бязумоўна больш спрыяючыя, чым тыя, якія прапануюцца. Гэтыя тэрміны абараняюць большасьць паляўнічых Беларусі і інш. рэспублік. Бязумоўна, што мы на іх павінны будзем спыніцца і надалей. Канчаткова трэба будзе па гэтаму пытаньню дамовіцца на падыходзячым Усебеларускім сходзе ўпаўнаважаных і перайсьці ад дыскусіі „аб тэрмінах паляваньня“ да практычнага ажыцьцяўленьня лёзунгу паляўнічай каапэрацыі—„Паляўнічы! захоўвай тэрміны паляваньня“.

---

Ч. Первабытны.

## Дасьледчы паляўнічы заказьнік у Віцебскай акрузе.

1 кастрычніка 1928 г. адчынен „Белкохотсоюзом“ такі заказьнік у Лёзьнянскім раёне, Добрамысьленскай лясной дачы і лясох мясцовага значэньня, якія мяжуюць з гэтай дачай. Агульная плошча заказьніка каля 11.000 гэктараў. З іх пад неперарыўным лесам занята каля 7.000 гэктараў, а апошняя плошча пад хутарамі, вазёрамі і лесам мясцовага значэньня. Найлепшае месца для заказьніка ўяўляе з сябе Добрамысьленская дача плошчаю 4857 гэктараў. Па-першае таму, што там неперарыўны лес і імшарына, перасечаная рэчкамі, а па-другое, багацьцем флоры. Тут ёсьць усё, што ўваходзіць у флору БССР.

Няма чаго і гаварыць, што дзякуючы багатай флоры, тут могуць жыць усе прадстаўнікі беларускай фауны. Па сабраных мною вестках тут у мінулыя часы было шмат зьвера і дзічы. Лось, мядзьведзь, дзікі, каза, куніца, норка і г. д. Але перад рэвалюцыяй уласьнікі гэтых лясоў—абшарнікі яго вырубілі і правялі чыгунку для аблягчэньня эксплёатацыі лесу. Цяпер лес складаецца тут з маладняка—у 4 вяршкі таўшчынёй у ніжнім адрубе дрэва. Здавалася-б, што менавіта такі лес маладняк упаўне падыходзіць для заказьніка, бо ў ім лягчэй за ўсё забараніць рубку яго, але гэта ня так на справе. Гутарка аб забароне вырубкі гэтага лесу ідзе ў шмат якіх установах з дня ўстанаўленьня заказьніка.

Ня трэба гаварыць, што зьвер і дзіч у заказьніку неспакойна сябе адчувае, калі лес трашчыць пад тапаром. Я не гавару ўжо тут аб тым, якая тут рубка, калі дрэвы больш 4 вяршкоў у гэтым лесе зьяўляюцца рэдкасьцю. Але гэтаму, будзем спадзявацца, Наркамзем з гэтага году пакладзе канец, а таксама забароніць пашу жывёлы, зьбіраньне, ягад і грыбоў у заказьніку. Пры такой забароне будзе закрыт доступ у дачу людзей з хатняй жывёлай, як сабакі, і дадзім магчымасьць спакойна расьці да поўнай сьпеласьці лесу, які ў далейшым зробіцца пэўным рассаднікам дзічы і зьвера. У момант адчыненьня заказьніка ўстаноўлена, што тут стала жывуць наступныя зьверы: лісіца, барсук, вавёрка, норка, выдра, тхор, гарнастай, ласка, куніца, заяц русак і бяляк, глушэц, цецярук, белая і шэрая курапатка, рабок. Пры адчыненьні заказьніка была адна каза, у 1927 годзе быў і мядзьведзь. Мядзьведзь перайшоў у Шчэрбінскае лясьніцтва, а каза невядома куды. Апошні дзік быў забіты браканьерам у 1926 годзе. Тут выводзіцца шмат качак, бэкасоў, дупялёў, слонак і іншай балотнай дзічы.

Ваўкі ў дачы ня выводзяцца 5 год, зімой-жа калі-ні-калі заходзяць.

Апроч таго, пры наяўнасьці спрыяючай флоры тут магчыма акліматызацыя фазанаў і некаторых іншых зьвяроў і птушак небеларускай фауны. Ва ўсякім выпадку будучына гэтага заказьніка ўяўляецца нам найлепшай, калі з 1929 году будзе ў ім забаронена на некалькі год усякая рубка лесу, паша жывёлы, зьбіраньне ягад і грыбоў і г. д.

## Пара падумаць.

Выдра—адзін з каштоўных зьвяркоў у Магілеўскай акрузе штогод зьнішчаецца. Судзячы па даных, паляўнічымі акругі забітай за гэты сэзон выдры налічваецца каля 10 штук, ды некалькі падранкаў засталося пад лёдам. Гнездаваньне выдры назіраецца па рэках Лохве, Друці, Грэзе і іншых, зарослых рэчках. Зьвярка гэтага ў нас налічваецца адзінкамі і паляўнічыя беспакояцца за яго блізкае зьнішчэньне зусім, тым больш, што часта мясцы пасяленьня выдры няўхільна падпадаюць пад мэліорацыю. Калі да гэтага дадаць адстрэл бранканьерамі і лоў рыбакамі ўлетку, дык стане ясным, што зараз-жа трэба прыняць меры да захаваньня гэтага каштоўнага зьвярка і забараніць усюды па Беларусі адстрэл яго на некалькі год.

**Манькоўскі.**

## Пагібель дзікаў у Плешчаніцы.

На тэрыторыі Плешчаніцкага лясьніцтва за апошнія 5—6 гадоў разьвялося каля 10 штук дзікаў. Жылі яны ўвесь час у Дзьвіноскай і Крайскай дачах, якія непасрэдна мяжуюцца з Польшчай. У 1928 г. мной былі заўважаны з дзьвума маткамі парасяты. Дзікі гэтыя шмат нарабілі шкоды сялянам і сяляне ўночы ў бульбе, увосені 1928 г., злавілі адно парасё вагой ня больш 2 кілё. У лютым месяцы 1929 г., дзякуючы вялікім марозам, 4 дзікіх парасят вагой да 16 кілё загінулі ад холаду і голаду. Вясной 1929 г. лясной вартай лясьніцтва быў знойдзен нежывы кабан, вагай да 5 пудоў. Агледзіўшы гэтага кабана, я заўважыў, што ў яго ад самай шыі па жывату ішлі дзьве глыбокія раны, ад якіх ён і загінуў.

**Алісіевіч.**

**Міх. Зубароўскі.**

## Аб лосях.

Лось некалі жыў ва ўсёй цэнтральнай Эўропе. Драпежніцкае зьнішчэньне і галоўным чынам культура, зьнішчыўшая вялікія балотныя лясы, прымусіла гэтага гіганта паступова адступаць на ўсход і поўнач і, урэшце, зусім зьнікнуць у большай частцы Эўропы. Па даных Э. Лафона лосі жылі ў Саксоніі яшчэ ў XVIII стагодзьдзі, у Сілезіі апошні лось быў забіты ў 1776 годзе, у Галіцыі ў 1758 годзе, у заходняй Прусіі ў 1830 годзе і, што менш даставерна, апошні лось Літвы быў забіты ў 1888 годзе. Сучасныя паляўнічыя законы Латвіі і Эстоніі, хаця і гарантуюць поўны спакой лосю, але яны зьяўляюцца платанічнымі, бо лось у гэтых дзяржавах ужо зьнішчан і наўрад ці вернецца ён сюды з двух краёў цэнтральнай Эўропы, дзе ён ёсьць.—Польшчы і ўсходняй Прусіі.

У Польшчы, у раёне Пінскіх балот яшчэ маюцца тры асобныя стады, у той час, як ва ўсходняй Прусіі ў вялізарных лясных масывах між Лабаінам і Мэмелем, дзякуючы разумнай і суровай ахове іх, налічваецца ад 450 да 500 галоў. У 1883 годзе іх было толькі 149 галоў, у 1901 г. колькасьць іх павялічылася да 401. Шмат было забіта ў пэрыад вайны 1914—1917 г.г., але потым, калі назіраньне аднавілася, яны сталі шпарка памнажацца. Штогодныя дазволы на адстрэл быкоў выдаюцца адміністрацыяй лясоў вельмі беражна і скупа; паміма гэтага паляўнічы можа забіць толькі таго лося, якога пакажа адміністрацыя. Адстрэл робіцца ў пэрыад рова, г. зн. у першай палове верасьня. У Швэцыі і Нарвэгіі лося яшчэ шмат і штогодны адстрэл яго дасягае 1000 штук. У Злучаных Штатах лось знаходзіцца пад аховай закону. У штатах: Мэн, Масачузец, Мічыган, Ідано, Мінезота, Монтана, Нью-Гемішэр, Нью-Ёрк, Паўночная Дакота, Орэган, Вермон, Вашынгтон і Віскансін—паляваньне на яго зусім забаронена. У Алясцы паляваньне на быкоў дазваляецца з 1 верасьня да 31 сьнежня, але і тут ёсьць некаторыя вобласьці, дзе паляваньне на лося не ўтвараецца круглы год. У Уйомінзе паляваньне на лося адчынена з 1 да 31 кастрычніка.

Адзін з штатаў, Мэн, мяркуе скасаваць запрэт паляваньня на лося з 21 лістапада 1929 году.

У Савецкім Саюзе лось жыве яшчэ ў Карэльскай рэспубліцы, на тэрыторыі РСФСР, Уральскай вобласьці, аўтаномнай вобласьці Комі, Беларусі і, як выключэньне, на Украіне.

Яшчэ параўнаўча нядаўна лося на тэрыторыі былой Расіі было ў дастатковай колькасьці. С. А. Батурлін („Чем кормится лось“ журнал „Охотник“ № 6. 1928 г.) паведамляе, што ў 80 гадох мінулага стагодзьдзя ў Пензенскай, Ніжагародзкай і Казанскай губэрнях лосяў было столькі, што яму ня раз прыходзілася сустракаць стады ў 15—18 штук. У б. Пецярбурскай губэрні і Прыбалтыцкім краі лосяў было вельмі шмат. Прыблізна ў гэтыя-ж гады (1875 г.) Ніжагародзкае таварыства правільнага паляваньня паведамляла, што за тры паляваньні, арганізаваных ім на ласёў па вясеньняму насту забіта 13 лосяў, з якіх—11 самак і 2 цяляці. Самкі амаль што ўсе былі цельныя двумя цяляцямі. Аб колькасьці лося можна судзіць па даных драпежніцкага зьнішчэньня яго ў паветах Гарахавецкім, Уладзімерскай губерні, і Балахінскім, Ніжагародзкай губэрні, дзе сяляне-прамыслоўцы, палюючы за імі па насту ў лютым, сакавіку і красавіку месяцох дабывалі яго: у 1874 годзе (Гарахавецкі павет)—86 штук і (Балахінскі павет) у тым-жа годзе 63 штукі. Ласіна прадавалася ў гэтых мясцох ад $1^{1}/_{2}$ да 2-х капеек серабром за фунт. Скура 3 рублі *).

Селянін вёскі Забор'е, Растоўскага павету ўзімку 72-73 году забіў 15 штук лосяў, а ў 73-75 годзе—35 штук. Усе скуры прадаў на растоўскім кірмашы ад 5 да 6 рублёў за штуку.

Вось тая невялікая карысьць, якая прымушала людзей зьнішчаць гэтага зьвера.

У нашы дні на тэрыторыі СССР засталося лося вельмі мала і толькі ў некаторых вобласьцях. Дзякуючы забароне паляваньня на іх, колькасьць яго павялічваецца, так, напрыклад, у Анежскім павеце, Архангельскай губэрні ў вобласьці Комі. Апошнія 2-3 гады ў паляўнічым друку часьцей сталі заўважацца выпадкі зьяўленьня ласёў, дзе іх ня было ўжо некалькі год.

Прыклад вядзеньня паляўнічай гаспадаркі ў усходняй Прусіі павінен нас упэўніць, што добрая ахова месц пасяленьня лося, мэтадычная ўпартая барацьба з ваўкамі і парушыцелямі спакою лося, так спрыялі, што колькасны склад яго ў працягу ўсяго толькі 8 год павялічыўся на 170 проц. Лось—шпарка разпладжаючаяся і шпарка разьвіваючаяся жывёла.

---

*) Ласіныя скуры ў гэты пэрыад амаль усе ў сьвішчах ад вусьня авадзеня і каштоўнасьці вядома ня мелі.




## Ці патрэбен нам гадавальнік.

*(Да абгаварэньня на сходзе ўпаўнаважаных саюзу паляўнічых).*

СТАВІЦЬ для абмеркаваньня на зьезьдзе гэта пытаньне, якое ўжо было станоўча вырашана мінулым сходам, рэдакцыю прымусілі тыя разгаворы, якія былі падняты ў пэрыядычным друку.

Ітак, ці патрэбен нам сабачы гадавальнік? На першы погляд здаецца, што патрэбен. Сабака—добры ганчак, у асаблівасьці, нашаму паляўнічаму, а тым больш паляўнічаму вёскі патрэбен таксама, як патрэбны іншыя прылады паляваньня. Што зараз добрых ганчакоў няма, яны вывеліся, гэта таксама праўда. Некаторыя гавораць, што добрых ганчакоў ня стала пасьля вайны, бо было не да сабак. Але, калі глыбей падыйсьці да гэтае справы, дык яно ня зусім так. Ня гледзячы на гэта, усё-ж захаваліся добрыя пародныя лягавыя сабакі—пойнтары, сэтары і г. д., а зараз, нават больш, чым да вайны, сталі разводзіцца сабакі вышуку. Справа мусіць ня толькі ў вайне, а і ў тым, што, наогул, меншая патрэба ў сабаку ганчаку, бо менш стала дзічы, для паляваньня за якой патрэбен ганчак, паменшаны тэрміны паляваньня за гэтай дзічай і тых ганчакоў, якія зараз ёсьць у паляўнічых, досыць, а калі мала, дык можна разьвесьці іх без такіх капітальных затрат, якія ідуць на гадавальнік „Белкохотсоюза". Апроч таго, ганчака трэба ўмець наганьваць і весьці пароду, а наша паляўнічая маса, якраз гэтага яшчэ рабіць ня можа і сабакі-ганчакі сталі мяшанцамі іншых парод.

У фауне БССР да гэтага часу захаваліся, можна сказаць, толькі тры зьвяры, гэта заяц, лісіца і воўк, для паляваньня за якімі патрэбен ганчак. Апошнія два зьверы прыносяць шмат шкоды сельскай і паляўнічай гаспадарцы і для зьнішчэньня гэтых шкоднікаў, некаторыя гавораць, і трэба разводзіць высокапародных добрых ганчакоў.

Мы не спрачаемся, што можна разьвесьці высокапародных ганчакоў, але спрачаемся за тое, ці будуць гэтыя ганчакі добрымі ганцамі, у асаблівасьці ваўкоў. Каб сабака добра ганяў воўка, ды і ліса, трэба вельмі шмат працы і сродкаў, а гэтага якраз „Белкохотсоюз" зрабіць ня можа, бо тыя сабакі, ад якіх атрымліваецца прыплод для разьвядзеньня, сядзяць у клетках гадавальніка і амаль на паляваньне ня выводзяцца, а калі і выводзяцца, дык тут, каля Менску, дзе воўка рэдка калі сустрэнеш, а ёсьць толькі зайцы, ды дзе-ні-дзе сустрэнецца ліс. Як-жа тут наганяць сабаку па воўку, які нібы толькі для паляваньня на яго і патрэбен?

А як-жа абстаіць справа з разьмеркаваньнем прыплода? Атрыманыя шчанюкі раздаюцца райупаўнаважаным для таго, каб яны ўжо далей разводзілі, захоўвалі ў чыстаце пароду і распаўсюджвалі іх па вёсках. Гэта і зьяўляецца галоўнай мэтай гадавальніка, бо інакш тады няма ніякага сэнсу мець яго. Але ці можа гэта зрабіць райупаўнаважаны? А калі можа, дык ці можа ён быць упэўненым, што з атрыманых такім чынам шчанят будуць добрыя ганцы? Бязумоўна, не. Перш-на-перш, ён ня зможа пры такіх умовах, у якіх трымаюцца на вёсцы сабакі, захаваць пароды. А калі ў асобных выпадках яна і захаваецца, дык не надоўга, і працаўнікоў добрых па чырвонаму зьверу, у асаблівасьці па воўку, чакаць ад гэтых сабак таксама нельга, бо наш паляўнічы шукае ў паляваньні матар'яльнай выгады і ён зараз-жа з маладым сабакам пойдзе на зайцоў, адсілу—на лісіц.

Кінолёг Чэлішчаў у сваёй кнізе „Наганивание гончих" гаворыць: „для таго, каб сабака гнаў чырвонага звера, трэба яго змалку наганьваць па гэтаму зьверу, а воўка нават даць падсаднога. Злавіўшы яго малым і трохі падрасьціўшы, пусьціць пад сабаку, ды і то—піша Чэлішчаў—на пушчаць на гэтага ваўчонка аднаго маладога сабаку, а даць яго ў падмогу старому. Наогул-жа з ваўком можа справіцца толькі стая ганчакоў". Такім чынам, довады, што разводзімыя зараз гадавальнікам сабакі змогуць зьнішчыць ваўкоў бязгрунтоўны, а сродкі яны пакуль што зьнішчаюць вялікія і калі гэтыя сродкі аддаць на прэміраваньне паляўнічых па барацьбе з драпежнікамі, дык сельская і паляўнічая гаспадарка перастала-б так цярпець ад драпежніка.

Якім-жа тады чынам падняць якасьць і пароду ганчака? Адпусьціўшы частку сродкаў, якія ідуць на гадавальнік, на ўтварэньне выставак і палявых спроб ганчакоў, пры нашай беднасьці на дзіч, можна ня толькі захаваць тое, што ў нас ёсьць з сабак, але значна нават лепш, чым гадавальнік, падняць як рабочыя здольнасьці сабак, так і захаваць у чыстаце і самую пароду іх. *Гэта мера самая рэальная і самая танная.*

Далей аб затратах на гадавальнік. Першыя гады ўтрыманьня гадавальніка „Белкохотсоюза" паказалі, што ў год на яго выдаткоўваецца 14000 рублёў і шчанюк абыходзіцца каля 300 рублёў (250—280). Каб давесьці кштоўнасьць шчанюка хоць-бы да 100 рублёў, для гэтага трэба павялічыць у 2-3 разы гадавальнік, бо ён ужо і для гэтай колькасьці сабак цесны, а значыцца, ад такога пашырэньня гадавальніка амаль у столькі-ж разоў павялічацца і выдаткі.

---

Сваёй думкі па закранутаму пытаньню, ці патрэбен нам гадавальнік, ці не, радакцыя зараз ня выказвае. Мы высьветлілі яго адмоўныя і дадатныя бакі і ставім на абгаварэньне надыходзячага сходу ўпаўнаважаных.—**Рэд.**

